СВАБОДА
№8 1—7 сакавіка 1994 г.
Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар Ігар ГЕРМЯНЧУК
Заснавальнік Павал ЖУК
Выдавец «Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Парад хлусьні

# Кебіч зноў перамог

**У той час, калі многія выданьні захапляюцца рознымі музычнымі хіт-парадамі, вызначаючы, хто зь сьпевакоў найбольш падабаецца публіцы, СВАБОДА вырашыла не адставаць ад павеваў сучаснасьці і завесьці свой «Віт-парад». Аднак, у адрозьненьне ад музыкаў, нашыя «героі» сьпяваюць зусім іншыя — палітычныя песьні, і нярадка голас іхны ажно зрываецца ад фальшу. Штомесяц СВАБОДА будзе ўзнагароджваць такіх «артыстаў» прызавым мейсцам у нашым конкурсе. Мы не зьбіраемся лавіць асобныя хлусьлівыя фразы і выказваньні: заслужыць права знаходзіцца ў «Віт-парадзе» можна толькі безупыннаю маной, хлусьнёй як жыцьцёвым прынцыпам, стылем паводзінаў і ладам жыцьця.**

Дык вось, на вяршыню параду ў лютым намі заканамерна і безальтэрнатыўна ўзьнесены прэм'ер-міністар **Вячаслаў Кебіч**. Ягоная перамога была поўнаю і пераканаўчаю. Мяркуйце самі: «да 15 сьнежня на мяжы з Расеяй будуць зьнятыя мытныя пошліны» (мытны кантроль толькі ўзмацняецца), «у сьнежні я прадстаўлю рэарганізацыю ўраду» (уся рэарганізацыя зьвялася да нараджэньня новай прыказкі «Данілаў — гэта ня прозьвішча, гэта — пасада»), ну, і вышэйшы «пэрл» — кожныя 2—3 тыдні заяўляць, што «у бліжэйшыя дні адбудзецца аб'яднаньне грашовых сыстэмаў». Думаю, Кебіч мае ўсе шанцы быць пастаянным прэтэндэнтам на вышэйшыя пазыцыі ў «Віт-парадзе».

Другое мейсца ў найвастрэйшай канкурэнцыі з прэм'ерам заняў **Вярхоўны Савет**. Здаецца, мы яшчэ неаднаразова пачуем, што «заява — гэта яшчэ не закон», а лістапад амаль тое ж самае, што сакавік (паўсюль зіма побач).

Пачэснае трэцяе мейсца мы



аддаем намесьніку міністра фінансаў **Мікалаю Лісаю**. Ён так зацята на сэсіі ВС абараняў і тэарэтычна абгрунтоўваў неабходнасьць давесьці сёлета агульную лічбу зьнешняга доўгу да 2 млрд. даляраў, што пачаў нават блытацца з арыфмэтыкай. За словамі Лісая, на кожнага жыхара Беларусі прыпадае не па 200 даляраў доўгу, як гэта ёсьць папраўдзе (2 млрд. даляраў падзяліць на 10 млн. жыхароў), а ўсяго толькі... 4 даляры. Маўляў, крэдыты мы бярэм ажно да 2023 г. Забыўся, аднак, таварыш намесьнік як пра бягучыя працэнты, так і, галоўнае, пра тэмпы «крэдытызацыі»: кожны год па мільярду.

Калі ўявіць, што гэты ўрад застанецца да 2023 г. і будзе пазычаць грошы з той жа хуткасьцю, то праз 30 гадоў Беларусь з усёю тэрыторыяй і багацьцямі можна будзе проста купіць за ейныя даўгі. Але, дзякуй Богу, гэтаму ўраду нядоўга засталося.

Віт



**У Вярхоўным Савеце прымаюць Канстытуцыю. Мечыслаў Грыб віншуе старшыню падліковай камісіі Віктара Ганчара з удала вынайдзенай працэдурай.**

## ТV тыдзень

## Пажарнікі застрайкавалі

**На Віцебскім вытворчым аб'яднаньні «Даламіт» застрайкавалі пажарнікі.**

На працягу апошніх трох месяцаў ім не плацілі заробку, і «цярпеньне лопнула». А 8-й гадзіне раніцы на пажарных машынах яны падрулілі пад вокны дырэктарскага кабінэту і разгарнулі лёзунгі: «Падтрымліваем страйк», «Патрабуем выплаты заробку». Дырэктар завода Уладзімер Грыгор'еў (былы першы сакратар Віцебскага абкаму КПБ) перапалохаўся, што могуць застрайкаваць астатнія, і даў каманду неадкладна выплаціць пажарнікам 11 мільёнаў. Яны ахайна скруцілі плякаты і пайшлі атрымліваць грошы.

**Васіль ІГНАЦЕНКА**

## У Слонім прыехала Апазыцыя

Мінулае суботы (26 лютага) у Слоніме адбылася сустрэча з дэпутатамі Апазыцыі Зянонам Пазьняком, Уладзімерам Заблоцкім, Лявонам Баршчэўскім. Заля раённага Дома культуры была перапоўненая — сабралася каля 900 чалавек.

## Судзіліся шэсьць месяцаў

Адміністрацыя менскага заводу ЭВМ імя Арджанікідзэ, якая незаконна звольніла з працы старшыню заводзкага Свабоднага прафсаюзу Уладзімера Рыхліка, павінна выплаціць яму грашовую кампэнсацыю за 6 месяцаў вымушанага прагулу. Рашэньнем суда прафсаюзны актывіст зь 1 сакавіка адноўлены на працы.

## Салігорскія шахцёры — басьнійскім гарнякам

Незалежны прафсаюз гарнякоў распачаў у Салігорску збор гуманітарнай дапамогі (лекаў, харчаваньня, адзеньня і г.д.) басьнійскім шахцёрам.

## Бог ня роўна дзеле

Рабочым менскага завода «Транзыстар» днямі падвысілі зарплату на 50—70%. Аднак ня ўсім.

Тым, хто ўваходзіць у Свабодны прафсаюз, далі толькі сымбалічную падвышку — на 15%.

## Забойцу Арцымені будзе шукаць генэрал

23 лютага на ўрачыстым сходзе ў Гарадзенскай абласной управе КДБ быў зачытаны загад аб падвышэньні некаторых супрацоўнікаў у званьні. Начальнік управы палкоўнік Сьцепаненка атрымаў генэральскія нарплечнікі. А ўвогуле апошнім часам некаторыя супрацоўнікі абласнога КДБ пішуць рапарты і звальняюцца. Іх ахвотна бяруць на працу ў камэрцыйныя структуры і плоцяць добры заробак.

## Гельфанд перамог Адамса

Беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд выйграў 1/8 фіналу чэмпіянату сьвета (паводле вэрсіі FIDE) у англічаніна Адамса. Адразу пасьля гэтага ён зьехаў зь Вялікабрытаніі на камэрцыйны турнір у Гішпанію — разам з жонкаю Адамса. Спадар Адамс паведаміў арганізатарам чэмпіянату, што ня зможа ўдзельнічаць у далейшых гульнях з прычыны «маральнай траўмы».

**Паведамленьні нашых карэспандэнтаў**

# Пракурор патрабуе зноў склікаць сэсію

Пракуратура Гарадзенскай вобласьці настойвае, каб галоўны архітэктар горада Ўладзімер Лытаў быў зьняты з пасады

**На лютаўскай сэсіі гарадзкога Савету гэтая прапанова не знайшла водгуку ў дэпутацкіх шэрагах. Трціна народных абраньнікаў увогуле адсутнічала, а з астатніх таксама амаль трэцяя частка ня выказалася ані за (усяго 24 галасы), ані супраць. Не атрымалася нават «пакараць» сп. Лытава вымоваю (35 галасоў — за), і ён застаўся кіраваць архітэктурнаю службаю надалей. Такім чынам, дэпутаты абачліва ня сталі псаваць дачыненьні з гэткім патрэбным чалавекам.**

Рэч вось у чым. Прыканцы 1990 г. сп. Лытаў за 133 руб. прыдбаў камяніцу ў старой частцы горада, якая ахоўваецца дзяржаваю. Зруйнаваў набытак, пабудаваў на тым мейсцы двухпавярховую творчую майстэрню і зарэгістраваў яе як прыватную ўласнасьць. Адразу потым частку памяшканьня здаў у наём малому прадпрыемству «Акма». Пасьля «Акма» атрымала 5-гадовыя правы на арэнду камянічкі, якая стаяла побач, а праз некаторы час разбурыла яе без дазволу ўладаў (каб пабудаваць новую, але нічога не пабудавала).

Аднак усё было «ціха й сьвята», паколькі «Акма» спраўна плаціла арэндную плату за дамок, які ўжо не існаваў. Яшчэ раз паспрыяў і сп. Лытаў, дамогшыся рашэньня гарвыканкаму аб перадачы разбуранай камянічкі на баланс «Акмы», прычым бясплатна. Вось такое «разьдзяржаўленьне» адбылося дзякуючы галоўнаму архітэктару. А дом з мансардаю, 1882 г. пабудовы і плошчаю 124 кв. мэтры, як мы ўжо казалі, папросту зьнік з вул. Гараднічанскай (былая Энгельса).

Пракуратура завяла крымінальную справу па факце зруйнаваньня дома ў старым квартале, які знаходзіцца пад аховаю дзяржавы. Бадай, першая ў Беларусі падобная справа! Цікава, што абласны гаспадарчы суд напачатку адмовіўся задаволіць судовы пазоў. Маўляў, дом быў ня дом, а абы-што. Пракурор апратэставаў гэтае рашэньне, пасьля чаго прынялі новае: з «Акмы» спагналі балансавы кошт разбуранай камяніцы — спачатку 1 млн. рублёў, а затым яшчэ 13 мільёнаў.

Закон абмяжоўвае дзяржаўных службоўцаў у прадпрымальніцкай дзейнасьці. Спадар жа Лытаў выконваў у сваёй творчай майстэрні замовы прадпрымальнікаў, атрымліваючы ад іх плату, а таму «не заўважаў» парушэньняў закону зь іхнага боку...

Калі запахла паленым, галоўны архітэктар 1 кастрычніка 1993г. узяў дый прадаў сваю майстэрню нейкаму сп. Майсееву. Мінулая сэсія пакінула ў душы сп. Лытава толькі спалох. Гавораць, што ён мае ўплывовага сябра-заступніка. Вельмі магчыма, бо сп. Лытаў дагэтуль застаецца на пасадзе і ўваходзіць у склад гарвыканкаму.

Як стала вядома, днямі гарадзенскія ўлады атрымалі афіцыйную паперу ад пракурора вобласьці Цярэшчанкі. Ён патрабуе зноў склікаць сэсію (нечарговую) і на падставе заканадаўства прыняць захады да сп. Лытава, зь дзейнасьці якога мы разгледзелі толькі адзін эпізод. Калі ж патрабаваньне ня будзе выканана, дык пракурор папярэджвае, што ён мае паўнамоцтвы паставіць пытаньне аб роспуску Савету, які не выконвае законы. Вось гэта быў бы прэцэдэнт! Зноў запахла паленым.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**




**Менск, Пляц Незалежнасьці. Грыбны сэзон.**

Скандал

# Брыльлянтавая нага падпалкоўніка

**Скандал, як і бяда, таксама адзін ніколі ня ходзіць. Не пасьпелі яшчэ цалкам супакоіцца жарсьці вакол кватэрных махінацыяў начальніка Цэнтральнага РАУС Менска народнага дэпутата Віктара Русака (артыкул «Кватэра для жонкі. Чужой» быў зьмешчаны ў леташнім лютаўскім нумары СВАБОДЫ), а ў згаданым райаддзеле міліцыі зьявіўся новы парушальнік закону.**

Эстафэту законанеслухмянасьці ад свайго любага кіраўніка літаральна праз некалькі месяцаў пераняў начальнік ДАІ Цэнтральнага раёну дэпутат мясцовага Савету падпалкоўнік Ігар Роскач. Праўда, адрозна ад Віктара Русака, які за незаконныя дзеяньні дзеля «выбіваньня» кватэры абмежаваўся толькі вымоваю, бо Генэральны пракурор Васіль Шаладонаў не палічыў патрэбным узбуджаць крымінальную справу супраць калегі-парлямантара, Ігар Роскач усё ж не ўтрымаўся ў начальніцкім крэсьле. Кіраўнік УУС Менгарвыканкаму Барыс Пілiпенка звольніў дaішніка. За што? Пра гэта варта распавядаць падрабязна, бо зараз сп. Роскач спрабуе абскардзіць рашэньне генэрала Пiлiпенкі ў судзе і заняць ранейшае «хлебнае» мейсца.

Але пра ўсё спачатку.

Дык вось. 6 лютага мінулага году падпалкоўнік Роскач гасьцяваў у сваіх бацькоў у Бабруйску. Натуральна, выпіў кілішак-другі, а потым вырашыў дапамагчы ў гаспадарцы. І трэба ж такому здарыцца — зламаў нагу. Вядома, хворага з такою сур'ёзнаю траўмаю завезьлі ў тамтэйшую паліклініку, там ён атрымаў першую дапамогу. Словам, няшчасны выпадак. І падпалкоўнік міліцыі таксама чалавек. Ну, выпіў, пасьлізнуўся, упаў, ачухаўся — гіпс, з кім не бывае.

У падобных выпадках звычайны сумленны чалавек ня стаў бы шукаць выгады. А наш герой адразу ж распачаў хітрую гульню, яшчэ ляжачы ў бальнічным ложку. Напачатку падмануў дактароў, падаўшы ім як свае зьвесткі свайго стрыечнага брата, які таксама жыве ў Менску. Асьцерагаўся, што на працы за атрыманьне траўмы ў нецьвярозым стане не дадуць бюлетэню, ды і ўвогуле па галоўцы не пагладзяць. Хаця бабруйскія дактары чамусьці забыліся адзначыць у даведцы, што спадар Роскач зламаў нагу «па п'янцы». А таму, вярнуўшыся дамоў, ён выправіў інцыялы ў даведцы (балазе прозьвішчы супалі) і сьмела накіраваўся ў паліклініку МУС. Там на падставе тлумачэньняў самога хворага ягоную траўму прызналі пабытоваю і выдалі на два з паловай месяцы лісток непрацаздольнасьці.

Іншы, відаць, радаваўся б і такому завяршэньню «п'янай» хваробы — мала таго, што пазьбег непрыемных тлумачэньняў на працы, ды яшчэ і бюлетэнь дзяржава аплаціла. Але Ігар Роскач вырашыў не спыняцца на дасягнутым. Скеміў, чаго вартыя некалькі дзясяткаў тысяч «бальнічных» рублёў, калі ёсьць цудоўны шанец зарабіць на няшчасным выпадку прыкладна тры мільёны. Рэч у тым, што згодна з законам «Аб міліцыі» за атрыманую на службе траўму гэткай цяжкасьці Белдзяржстрах абавязаны выплаціць пацярпеламу дапамогу ў памеры ягонага трохгадовага грашовага забесьпячэньня.

Праўда, зараз сп. Роскач сьцьвярджае, што нават у думках ня меў падмануць дзяржаву на пару мільёнаў. У такім разе зусім не зразумела, навошта ён 20 красавіка 1993 г. зьвярнуўся з рапартам на імя начальніка Цэнтральнага РАУС Віктара Русака, у якім «перакваліфікаваў» сваю «пабытовую» траўму на службовую. Маўляў, 5 лютага добрасумленна ахоўваў парадак на вул. Арлоўскай у Менску і зламаў нагу. Прычым у лістку непрацаздольнасьці і сапраўды зьявіўся запіс «вытворчая траўма».

І што б вы думалі — начальства паверыла. Пасьля фармальнага дасьледаваньня намесьнік начальніка Цэнтральнага РАУС вынес заключэньне, што падпалкоўнік Роскач пацярпеў пры выкананьні службовых абавязкаў. Дзіўна нават, чаму такога самааддана начальніка раённай ДАІ кіраўніцтва РАУС не прадставіла яшчэ да ўрадавай узнагароды. Чалавек жа «зламаўся» на рабоце і нават не пакінуў баявы пост, а назаўтра прымудрыўся з такім «раненьнем» заехаць у Бабруйск. Але для нашага героя досыць было, відаць, і аднаго даверлівага заключэньня, зь якім ён неадкладна накіраваўся ў Цэнтральную вайскова-лекарскую камісію МУС Беларусі. Пэўна, гэтым разам прадпрымальны падпалкоўнік ужо ня меў сумневу ў тым, што ягоны плян удасца ажыцьцявіць.

Аднак фартуна адвярнулася ад Роскача. Камісія МУС засумнявалася ў праўдзівасьці заключэньня «аб службовым характары траўмы падпалкоўніка Роскача» і накіравала дакументы на дадатковую праверку ва ўправу ўнутраных справаў гарвыканкаму. Падман тамтэйшыя інспэктары выкрылі хутка. Але даказаць, што Роскач імкнуўся атрымаць трохмільённую страхоўку, не ўдалося, паколькі з адпаведнаю заяваю ў Дзяржстрах ён не зьвяртаўся. Тым ня менш падпалкоўнік пакаяўся і напісаў рапарт, у якім пагадзіўся на любую меру пакараньня. Кіраўніцтва УУС выбрала самую гуманную — проста звольніла яго з пасады.

Што тут усчалося! У маленькага начальніка аказалася нямала магутных заступнікаў. І нават прэзыдыюм Цэнтральнага райсавету накіраваў у кіраўніцтва УУС Менскага гарвыканкаму ліст, у якім адзначыў, што ўжытая да дэпутата Роскача мера пакараньня не адлюстроўвае зьдзейсьненаму ім учынку. Маючы такую падтрымку, наш герой ня мог не зьвярнуцца ў суд са скаргаю на незаконнае звальненьне. Дарма, што раней фактычна прызнаў сваю віну і згадзіўся нават пакінуць пасаду, абы не раскручвалі справу. Сёньня можна адмовіцца ад тых словаў і паспрабаваць вярнуцца ў «крэсла сваё». Сёньня на Беларусі іншыя часы.

А раптам удасца?

**Адам РОЎДА**

## «Праваю рукою» міністра Данько можа стаць сваяк Грыба

**Пасьля абраньня Ўладзімера Данько на міністра ўнутраных справаў у кулюарах МУС вядзецца шмат размоваў аб магчымых прэтэндэнтах на вакантную пасаду першага намесьніка кіраўніка гэтага ведамства.**

На думку інфармаваных асобаў, найбольш верагодным кандыдатам на першага намесьніка міністра зьяўляецца палкоўнік Анатоль Бякешчанка. Ён доўгі час працаваў разам з генэралам Данько. Апроч таго, як высьветліў карэспандэнт СВАБОДЫ, Анатоль Бякешчанка прыходзіцца сваяком сьпікеру парляманту Мечыславу Грыбу. Іхныя жонкі — родныя сёстры. Так што, відавочна, палкоўнік Бякешчанка мае ўсе шанцы стаць праваю рукой міністра ўнутраных справаў.

**Адам РОЎДА**

## Прапіска за хабар

**У міліцэйскай «сям'і» днямі здарыўся скандал. Па падазрэньні ў атрыманьні хабару арыштаваны начальнік пашпартнага стала Савецкага раёну Менска Акуліч і кіроўца дзяжурнай машыны гэтага ж РАУС Кот.**

Паводле папярэдніх зьвестак, абодва міліцыянты атрымалі хабар за незаконную прапіску аднаго багатага нашчадка, які такім чынам спрабаваў авалодаць кватэраю, дзе жылі ягоныя бацькі. Натуральна, мэта апраўдвала сродкі. Таму спадкаемца, які нават ня меў менскай прапіскі, не скупіўся на грошы, каб толькі засяліцца ў запаветную кватэру. І міліцыянты ахвотна пагадзіліся дапамагчы яму. Дарэчы, кіроўца дзяжурнай машыны РАУС за пасярэдніцтва паслугі атрымаў 1500 даляраў, а сам начальнік пашпартнага стала ўсяго 700 USD.

Зрэшты, ні той, ні другі скарыстаць хабар не пасьпелі — былі арыштаваныя і цяпер знаходзяцца ў сьледчым ізалятары.

Між іншым, гэта не адзіны выпадак карупцыі ў Савецкім РАУС. Ня так даўно ледзь ня трапіў за краты начальнік службы прафілактыкі райаддзелу, якога таксама падазравалі ў хабарніцтве, але ён своечасова пасьпеў уцячы на пэнсію.

**А.Р.**

Ігар БАБКОЎ

# Дыктатура Кебіча і як зь ёю змагацца

Ігар Бабкоў, 29 гадоў. Генэральны дырэктар Беларускага Інстытута Эўропы. Скончыў Белдзярж-унівэрсытэт, аддзяленьне філязофіі. Стажыраваўся ў Лёнданскім унівэрсытэце.



«Ціхі камуністычны пераварот» радыкальна зьмяніў сытуацыю на Беларусі. Рэальнасьць апошніх тыдняў — гэта арышты й затрыманьні, таемныя перамовы з Расеяй і гучныя пагрозы Алазыцы, маразм БТ й судовыя штрафы ў 300 руб. Здаецца, мы апынуліся ў іншай краіне. Аналіз сытуацыі пераконвае: сёньняшні палітычны рэжым можа быць названы адным словам — ДЫКТАТУРА. Самае страшнае, што гэта нават не мэтафара, а дакладнае палітычнае азначэньне.

Досьвед дыктатуры заўсёды ёсьць экстрэмальным для нацыі. Але ў Новай Эўропе мэханізм пераходу ў рэжым дыктатуры быў зьвязаны толькі з адным сюжэтам: грамадзкая нестабільнасьць, розныя палітычныя сілы знаходзяцца ў адкрытай канфрантацыі, якая пагражае перарасьці ў грамадзянскую вайну, сацыяльнага й палітычнага кампрамісу фатальна не знаходзіцца, на розных флянгах палітычнага спэктру непрыхавана рыхтуюцца сілавыя варыянты. У гэткай сытуацыі знаходзіцца чалавек, што проста «адмяняе» палітычнае жыцьцё й супакойвае такім чынам разбалянсаванае грамадзтва. Праўда, кошт гэтага супакаеньня жахліва высокі.

Нацыі пасьля дыктатуры прыходзіцца ўсё пачынаць з нуля. Вельмі цяжка зноў пачаць сур'ёзна ставіцца да «жанру» дэмакратыі, — памятаючы, зь якой лёгкасьцю ён быў адменены і зь якой лёгкасьцю ўсе гэта праглынулі.

Дык, можа, на Беларусі ішла грамадзянская вайна? Можа чырвоныя брыгады пагражалі перадушыць «буржуяў»? Можа Пазьняк паклаў у «кампот» Кебічу пляскатую бомбу? Адкуль дыктатура, у чым тут палітычная лёгіка?

Пытаньняў больш, чым адказаў. Пакуль жа каманда Кебіча-Грыба нагадвае п'яных аўтаматчыкаў, што выскачылі на вулку й пачалі страляць. Цяпер, крыху працьверазеўшы, яны й самі пакутліва шукаюць абгрунтаваньня: чаму? Можа сказаць усім, што гэта зусім і ня вулка, а «полигон Западной группы войск», і што цяпер «ученья идут»? Не паверыць. (Праўда, ёсьць яшчэ афрыканскі варыянт. Гэта калі правадыр Нунумба знаходзіць скрыню з навюткімі «узі». То ж бо можна пасваволіць).

У гэты час, тут жа, на вуліцы, ціха памірае грамадзянская супольнасьць. За два гады незалежнасьці паўстаў цэлы спэктар палітычных партыяў і рухаў, якія зьвязалі людзей да сытуацыі рэальнага выбару: палітычнага, эканамічнага, культурнага. Гэта была новая Беларусь. Сёньня ўсё гэта перакрэсьлена.

Парлямант, выканаўчая ўлада, суд і прэса — гэтыя чатыры стаўпы дэмакратычнага грамадзтва — знаходзяцца ў руках купкі людзей, якія не прадстаўляюць нікога й нічога, — акрамя свайго шалёнага жаданьня любым коштам затрымацца ля ўлады. У такіх умовах палітычнае жыцьцё пераўтвараецца ў фарс.

Што ж, прыходзіцца адкласьці ўбок падручнік паліталёгіі. Пры дыктатуры рэцэпты палітычнае дзейнасьці гранічна простыя — як інструкцыя да аўтамата Калашнікава.

### Інструкцыя:

1. **Ня верыць у імітацыю палітычнага жыцьця.** Каманда Кебіча-Грыба будзе спрабаваць «прыкарміць» малыя палітычныя партыі, каб стварыць ілюзію плюралізму. Магчыма, будуць абяцанкі й прапановы. Будзе дазволена «ціха шаптаць суседу». Але, па сутнасьці, гэтым людзям ведамае толькі адно палітычнае правіла — «адключыця микрафон», і ў момант выбараў яны абавязкова яго скарыстаюць.

2. **Патрэбная палітычная ізаляцыя ўлады.** Усе дэмакратычныя сілы мусяць заключыць паміж сабою пакт, у якім сёньняшняя сыстэма ўлады будзе афіцыйна кваліфікаваная як «дыктатура». Гэтае слова мусіць гарэць на ілбе Кебіча-Грыба да скону, побач з чырвонай зоркай. Дэмакраты мусяць дамовіцца, што «палітычныя» гульні зь сёньняшняй уладаю магчымыя адно пры выкананьні пэўных патрабаваньняў: кааліцыйны ўрад, разьдзяржаўленьне прэсы, аднолькавыя стартавыя ўмовы для ўсіх палітычных сілаў.

3. **У сытуацыі дыктатуры самая эфэктыўная стратэгія — апэляцыя да міжнароднае супольнасьці.** Мусяць ісьці дзясяткі й сотні фактаў, мусяць запрашацца карэспандэнты, прымацца заявы й рассылацца ў інфармацыйныя агенцтвы. Досыць сядзець у позе пакутніка й чакаць, пакуль прыедуць, убачаць і пашкадуюць. Інфармацыя — гэта тэхналягічны працэс, і яго трэба рабіць прафэсійна.

4. **Шаноўная беларуска-руская інтэлігенцыя! І вы, мілыя аматары Мандэльштама й Букчына!** Досыць тыражаваць самастворанныя міты пра «нацыяналаў». Пакуль вы адважна змагаліся з «узколобыми националистами» й вырашалі, ці ёсьць праўда ў натоўпу, да ўлады прыйшлі «широколобые интернационалисты». На беларускім гадзіньніку — поўнач. А што паказвае «европейское время»?

### Прагнозы й варыянты:

Нутраная лёгіка дыктатуры — гэта лёгіка распаду. У адрозьненьне ад таталітарызму, які прагне вечнасьці й хавае сваіх багоў у маўзалеях, дыктатура — зьява часовая. Дыктатура Кебіча-Грыба пратрымаецца максымум да канца году. Менавіта на гэтым часавым прамежку трэба плянаваць тактыку барацьбы.

Сацыяльная база дыктатуры — люмпэнізаваныя й маргіналізаваныя пласты насельніцтва, якімі можна кіраваць праз дзяржаўную прэсу і якім можна час ад часу кідаць косткі. Дыктатура зацікаўлена ў пашырэньні гэтага пласта. Таму развал эканомікі й ажабрачаньне народу — гэта ня проста вынік няздольнасьці каманды Кебіча, гэта інтуітыўная тактыка пашырэньня свае́й сацыяльнай базы. У жабракоў няма ўсьведамлёных эканамічных і палітычных інтарэсаў, люмпэнізацыя народу аб'ектыўна вядзе да паніжэньня сацыяльнай і палітычнай актыўнасьці, да папулізацыі палітычных праграмаў і стратэгіяў — і ўрэшце да легалізацыі рэжыму дыктатуры ў сыстэме фашыстоўскай дзяржавы.

Самае страшнае, на што могуць спакусіцца дэмакраты — гэта паспрабаваць перахапіць ініцыятыву й разгуляць люмпэн-папулісцкую карту супраць самога Кебіча. У тактычным сэнсе гэта можа падкінуць галасоў на выбарах, але стратэгічна гэта вядзе да развалу грамадзянскае супольнасьці ды ўсяго палітычнага спэктру. Гэта відавочна паказвае й досьвед Расеі, дзе ўжо цяжка зразумець, хто больш фашыст ды імпэрыяліст: Жырыноўскі? Козыраў? Ельцын? Сабчак? У выніку ўжо сёньня Расея зьяўляецца фашыстоўскаю дзяржавай, дзе замест пластоў ды стратаў грамадзянскае супольнасьці пануе «великий русский народ».

Таму для беларускай дэмакратыі самае істотнае сёньня — вытрымка й вернасьць сваім прынцыпам, канкрэтная праца ў кожным горадзе, кожным мястэчку й кожнай вёсцы. Досыць з вышыні пастамэнту абвяшчаць, «што мы зробім, калі прыйдзем да ўлады». Досыць быць самай апазыцыйнай апазыцыяй. Досыць прэтэндаваць на лідарства ў дэмакратыі і праўду ў палітыцы. Палітыка — гэта прафэсійная дзейнасьць, якою займаюцца «каманды», а не асобы.

А прагноз пакуль адзіны: у сьнежні 1994 году адбудзецца судовы працэс над Дыктатарам. Перамогшы, дэмакратыя абмяжуецца пажыцьцёваю забаронаю на палітычную дзейнасьць. Калі праз дваццаць гадоў ён памрэ ў сваёй кватэрцы, ужо ніхто гэтага не заўважыць.

*«...Этот конгресс народов Беларуси — единственное народное движение... Мы в правительстве заявили о том, что мы будем во всей своей деятельности очень ориентироваться на действия участников этого конгресса...»*

Вячаслаў КЕБІЧ




*Малюнак С.КІСЯЛЁВА*

# Туга па імпэрыі

**Яшчэ ўлетку 1992 году амэрыканскі навуковы часопіс *Dalhousie review* надрукаваў артыкул Эвы Томпсан «Three Perceptions of the Fall of Communism» (Тры ўспрыняцьці падзеньня камунізму). Нягледзячы на на амаль двухгадовы тэрмін з моманту публікацыі, артыкул, як падаецца, ня толькі ня страціў актуальнасьці, але й набыў новае гучаньне ў сучасных умовах. Ніжэй падаем скарочаны пераклад гэтае публікацыі.**

Шмат людзей у Расеі прыняло падзеньне камунізму з уздыхам шчырае палёгкі. Значна менш энтузіязму выклікаў скон Савецкага Саюзу — які па сутнасьці быў расейскаю імпэрыяй, як заўважыў вядомы савэтоляг Стэфан Эрлянгер і тым самым закрануў надзвычай важнае пытаньне, якое можа паўплываць на будучыя дачыненьні паміж Расеяй і еймымі суседзямі, а тым самым на лёс Эўропы.

Атаясамленьне савецкай імпэрыі з Расеяй не зьяўляецца, на жаль, прыдумкаю савэтолягаў. Яно даўно прысутнічала ў штодзённай расейскай падсьвядомасьці. Цяпер яно праяўляецца з новай сілаю ў выказваньнях вучоных, публіцыстаў і палітыкаў. У ходзе парляманцкіх дэбатаў аб зьмене назвы савецкай Акадэміі навук яе віцэпрэзыдэнт Яўгені Веліхаў, абяззброіўшы сьвет шчырасьцю, канстатаваў: «Гэта, па сутнасьці, заўсёды была Расейская акадэмія навук». Падобным чынам трактуюцца расейцамі ўсе іншыя ўстановы Савецкага Саюзу — ад арміі да музэю.

Таму распад Савецкага Саюзу мусіў выклікаць у расейцаў зьмешаныя пачуцьці. Бадай што ніводзін з асноўных расейскіх палітыкаў не пракамэнтаваў прыхільна абвешчаньне незалежнасьці Украіны, і ў той жа час шмат хто, як Жырыноўскі, Руцкой ці Распуцін, востра й рашуча запратэставаў. Былі таксама масавыя дэманстрацыі супраць падзелу Саюзу ў Маскве, хоць не было такіх у Кіеве ці Горадні.

Адначасова большасьць расейцаў нават не здагадваецца пра пачуцьцё крыўды сваіх заходніх суседзяў, ня кажучы ўжо пра якую-кольвечы спробу зразумець іх. У гэтую нядобрую традыцыю ўпісваецца ацэнка здарэньняў, зьвязаных з падзеньнем камунізму. Расейцы бачаць прычыны гэтага падзеньня зусім інакш, чым народы Ўсходняй Эўропы. Яшчэ іншую карціну малююць вучоныя Захаду. У кожным з гэтых вобразаў перамога дэмакратыі мае іншых бацькоў.

Амаль што на наступны дзень пасьля падаўленьня путчу Барыс Ельцын арганізаваў у Берасьці сустрэчу лідараў Расеі, Украіны й Беларусі, якія пасьпешліва ўтварылі Садружнасьць незалежных дзяржаваў. Неўзабаве да яе далучыліся восем іншых былых савецкіх рэспублік. Гэта была аж надта чытэльная перасьцярога для дзяржаваў рэгіёну і адначасова першы сыгнал, што разам са сьмерцяй камунізму зусім не пагаслі расейскія імпэрскія прэтэнзіі. Наступныя такія сыгналы надышлі з прыбалтыйскіх краінаў — Эстоніі, Латвіі й Летувы. Аказалася, што расейцы ня толькі не выводзяць з гэтых, фармальна ўжо незалежных, дзяржаваў свае войскі, але нават ня хочуць пра гэта размаўляць.

Шмат якія народы спазналі жудасныя пакуты ад савецкай улады, але толькі адзін зь іх чэрпаў карысьці з савецкае магутнасьці. Гэтым прывілеяваным народам ёсьць расейцы. Ва ўсіх краінах «блёку» перавага давалася расейскай мове, расейскім навучальным установам, расейскім спэцыялістам у навуцы і ў прамысловасьці. Паўсюднаю практыкай былі

# Як жыць, Барыс Мікалаевіч?

**Фрагмэнты пасланьня Прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі Фэдэральнаму Сходу «Аб умацаваньні Расейскай дзяржавы. Асноўныя кірункі ўнутранай і вонкавай палітыкі» 24 лютага 1994 г.**

«Практыка паказвае, што ніхто, акрамя Расеі, сёньня не гатовы ўзяць на сябе ношу міратворчасьці на prasторы былога СССР. Тым ня менш выкарыстаньне расейскіх міратворчых сілаў у апэрацыях СНД дагэтуль успрымаецца ў шэрагу краін з насьцярогаю.

Неабходна пераламіць яе. Ва ўсіх краінах СНД, дзе Расея ўдзельнічае ў міратворчых апэрацыях, яна робіць гэта на просьбу і са згоды сваіх суседзяў, на падставе міжнародна-праўных дакумантаў, у поўнай адпаведнасьці з сувэрэннымі правамі дзяржаваў, замацаванымі ў Статуце ААН. А таму кожны раз пытацца ў сусьветнага супольніцтва дазволу на тую ці іншую апэрацыю ёй няма патрэбы».

«Станаўленьне СНД спалучана з мноствам новых і старых праблемаў. Тым ня менш ужо намецілася тэндэнцыя да эканамічнай рэінтэграцыі, да больш глыбокага палітычнага супрацоўніцтва.

Арганізацыя сумеснай абароны, сумесная ахова межаў, стварэньне адзінай інфармацыйнай прасторы, комплекснае рашэньне праблемаў грамадзянства і абароны правоў перасяленцаў — вось пытаньні, якія павінны быць у цэнтры ўвагі».

«Шмат спрэчак вакол праблемы нацыянальных валютаў. У шэрагу дзяржаваў вывучаюцца магчымасьці ўваходу ў адзіную грашовую сыстэму з Расеяй. Найбольш актыўныя прапановы па аб'яднаньні грашовых сыстэмаў зыходзяць у цяперашні час ад Ураду Рэспублікі Беларусі.

Аб'яднаньне грашовых сыстэмаў — складаны працэс. (...) Галоўная складанасьць палягае на тым, як пабудаваць кіраваньне грашоваю сыстэмаю — гэтаю сапраўды крывяноснаю сыстэмаю эканомікі — пры захаваньні двух урадаў, двух нацыянальных банкаў, двух аўтаномных бюджэтаў і двух парлямантаў з роўнымі сувэрэннымі правамі. Другое важнае пытаньне: якія паўнамоцтвы дзяржава, якая ўступае ў аб'яднаную грашовую сыстэму з Расеяй на аснове расейскага рубля, павінна пры гэтым дабрахвотна дэлегаваць і ці не адкліча яна потым гэтыя паўнамоцтвы бяз страты для другога боку? Урэшце, давядзецца вызначыць, які ўзровень палітычнай інтэграцыі забясьпечыць жыцьцяздольнасьць новастваранае аб'яднанае грашовае сыстэмы.

Ясна, што аб'яднаньне грашовых сыстэмаў можа абысьціся нашай краіне дужа дорага. Аднак у пэрспэктыве аб'яднаньне можа ня толькі даць выгады Беларусі, але і акупіць выдаткі Расеі, прынесьці ёй свой плён пры ўмове выкарыстаньня новых палітычных падыходаў».

гаспадарчыя дамовы, якія давалі прывілеі расейскаму боку. Пераклады расейскіх кніг мелі гарантаваную публікацыю, нягледзячы на іхны зьмест. Але дзякуючы камунізму Расея атрымала карысьці яшчэ іншага тыпу. Да так званай кастрычніцкай рэвалюцыі гэта была вялікая дзяржава, зь якою лічыліся ў сьвеце — але ўсё ж ня звышдзяржава. У 1904 г. на Расею напала самастойна Японія і — выйграла вайну. Якая дзяржава сьвету магла б марыць сёньня пра падобны посьпех?

Са створанай, дзякуючы камунізму, звышмагутнасьці нарадзіўся звышпрэстыж, а зь яго наступныя карысьці для расейцаў. Мова й культура Расеі сталася прадметам зацікаўленасьці ў ступені, што перасягала часьцяком заслугі гэтае культуры для чалавецтва. Супольніцтвы Захаду хацелі ведаць свайго Вялікага Ворага, а ключом да гэтых ведаў была расейская мова.

Самі расейцы, аднак, зусім ня лічаць, што савецкая ўлада дала ім нейкія прывілеі. Наадварот, яны ўважаюць, што гэта яны найбольш пацярпелі, і, акрамя таго, што працягам усіх гадоў існаваньня «сацыялістычнае сям'і народаў» яны адарвалі рэспублікі Саюзу й дзяржавы блёку матар'яльнымі й духоўнымі каштоўнасьцямі. Цяпер, пасьля распаду СССР, яны трактуюць гэтыя каштоўнасьці як свае і цалкам падтрымліваюць дзеяньні расейскіх уладаў, скіраваныя на іхнае паўторнае прысваеньне. Расейскімі аказваюцца залатыя й валютныя рэзэрвы ў банках, вайсковая тэхніка, касьмічная праграма, творы мастацтва, шахты, караблі, дыпляматычныя пляцоўкі й замежная нерухомасьць. Толькі даўгі Саветаў агульныя — і трэба імі справядліва падзяліцца. Расейцы дамагаюцца таксама звароту грошай за розныя савецкія аб'екты і ўстаноўкі на тэрыторыях краінаў-сатэлітаў — галоўным чынам вайсковыя гарнізоны й палігоны — хаця экалягічныя шкоды, выкліканыя гэтымі ўстаноўкамі, у шмат разоў перавышаюць іхную сёньняшнюю вартасьць.

На жаль, памылковая думка расейцаў, што нібыта гэта яны найбольш пакутвалі ад камуністычнага рэжыму, панесьлі найвялікшыя кошты яго ўтрыманьня й мелі найбольшыя заслугі ў ягоным зьвяржэньні — падтрымліваецца Захадам. Ня толькі вэрбальна. Ня толькі ў кнігах гісторыкаў і палітолягаў, у публікацыях прэсы, у выказваньнях палітыкаў. Таксама матар'яльна. Перш за ўсё ў выглядзе фінансавай дапамогі, кіраванай перадусім у Расею, хаця патрэбы іншых былых савецкіх рэспублік зусім ня меншыя.

Расейцы — таленавіты народ, але ніколі ў сваёй гісторыі — таксама на працягу астатніх 75 гадоў — яны не сутыкаліся з дэмакратычнымі ўзорамі, зь ідэяй роўнасьці ўсіх людзей і ўсіх народаў. Такіх узораў не прапанавалі ім ані палітычныя правадыры, ані, што яшчэ горш, правадыры духоўныя. Расея дала сьвету шмат выдатных пісьменьнікаў, але ніводзін зь іх не падаў грамадзкай пэрспэктывы, якая б пераадольвала нацыяналістычныя схемы. Наадварот, найвялікшыя зь іх, напрыклад, Дастаеўскі, фэтышызавалі й абагаўлялі расейскую душу. Сёньня гэты ўзор паўтараюць, больш ці менш удала, такія пісьменьнікі, як Валянцін Распуцін. Найноўшая ідэя Салжаніцына — узьяднаньне Расеі, Украіны і Беларусі ў адну вялікую славянскую дзяржаву — зьяўляецца толькі новаю вэрсіяй вялікарасейскае утопіі.

Расейская праваслаўная царква, адміністрацыя якой распасьціраецца на ўсю тэрыторыю былога Савецкага Саюзу, скіраваная супраць прадстаўнікоў іншых веравызнаньняў, напрыклад вуніятаў ці каталікоў. Рэч у тым, што вуніяты — гэта пераважна ўкраінцы й беларусы, а расейскія каталікі — гэта ў вялікай частцы аселыя там не з уласнай волі палякі.

Расейскі народ, выхаваны на працягу соцень гадоў у абсалютным культе ўлады і аўтарытэтаў, ня выйдзе з гэтай утопіі ўласнымі сіламі. Ён будзе бясконца сьніць свой сон аб магутнасьці, якую ён разумее як фізычную, мілітарную гегемонію, усё больш варожа ставячыся да суседзяў, што з-пад гэтае гегемоніі вырваліся. Толькі расейскія інтэлектуалы, расейскія палітыкі, расейскае духавенства могуць вырваць народ з замкнёнага кола імпэрыяльнай утопіі. Дзеля гэтага яны мусяць аднак самі зірнуць зь іншай пэрспэктывы на найноўшую гісторыю Расеі, мусяць прызнаць шматлікасьць пэрспэктываў, мусяць урэшце пачаць шчыра інфармаваць уласнае грамадзтва.

**Падрыхтаваў Е.В.**

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# За Бэрмудзкім трохкутнікам



Калі б мне месяц таму хтосьці сказаў, што напачатку лютага буду аж у Сан-Сальвадоры, — не паверыў бы. Недзе 18 студзеня маю ахвярную працу ў ліцэі перапыніў тэлефонны званок. Патурбаваў Ніл Гілевіч:

— Ці даўно Вы былі апошні раз у Сан-Сальвадоры?

— Дзе-дзе?

— У Сан-Сальвадоры...

— Ну, мякка кажучы, яшчэ не бываў.

— Ёсьць запрашэньне на міжнародную канфэрэнцыю.

— Але ж гэта Бог ведае колькі дабірацца...

— Трэба чалавек з ангельскай або гішпанскай мовай.

— Ну, мова — гэта прасьцей, але ж у блізкі сьвет ехаць — і так часу няма...

— Калі не паедзеце Вы — а ад Беларусі запрашаюць аднаго чалавека — дык можа паехаць пэўны Іван Іванавіч. Вас гэта задаволіць?

— Ня надта каб... Відаць, трэба ехаць.

Як заўсёды, чым далей ляцець, тым менш часу зьбірацца. Усё вырашаецца ў пятніцу. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, выказаўшы сумневы ў маёй «палітычнай кампэтэнтнасьці», усё ж дае дазвол на паездку — дазвол, але ніводнага даляра (афіцыйна ўсё павінна фінансавацца сальвадорскім урадам). Квіткі замоўленыя ў фірме LufthansA ўжо на нядзелю. Цэлую суботу пішу на ангельскай мове даклад, бо ўключаны ў праграму. У нядзелю зраньня вывучаю гішпанскую мову, але а дванаццатай ад'яжджаю ў «Менск-2». Там — першая неспадзяванка. Чыноўнік з Lufthans'ы — малады хлопец беларус — патрабуе заплаціць нейкі сумнеўны «tax», аж 32 даляры (здаецца, там і так усё аплочана). Спрачацца часу няма, і ўзяты з сабою мой даляравы запас зьнікае ледзьве ня ўвесь...

Лётаць Lufthansa'ю люблю (раней даводзілася аж двойчы — да Брусэля і адтуль). Па-першае, усё па-нямецку салідна. Па-другое, даюць цудоўнае віно дзеля бадзёрасьці: я заўсёды выбіраю чырвонае з Bordeaux. Лячу «Boeing'ам 737» да Франкфурта, а там адразу ж перасадка на Нью-Ёрк. Вялізны аэробус А-340 паўпусты. Але той жа камфорт — нават «відзік» круцяць. Гляджу ў білет: падобна на тое, што ў Нью-Ёрку давядзецца чакаць самалёта на Сан-Сальвадор гадзінаў з дванаццаць. Ламлю сабе галаву — як і дзе правяду гэтыя гадзіны, бо ў пашпарце ня маю ніякае візы.

Яшчэ ў Менску чыноўнікі доўга разьбіраліся, ці можна мяне гэтак выпускаць «у сьвет». Але ж у МЗСе было сказана, што ніякай візы да Сальвадора ня трэба (а за адну пятніцу, калі ўсё вырашалася, пэўна, я яе і не атрымаў бы). Сказалі, што ў Сальвадоры дадуць яе, як усім цывілізаваным людзям, у аэрапорце. Падлятаючы да Нью-Ёрка, аднак, хвалююся. Добра ведаю тамтэйшую памежна-мытную бюракратыю. Калі адзін раз былі да гэтага за акіянам — разам са спадарамі Пазьняком і Заблоцкім — памятаю, колькі часу змарнавалі, пакуль прабіліся «на волю» на лётнішчы JFK («John Fitzgerald Kennedy»). Я згодны ўжо кантавацца дзе-небудзь у чаканьні на крэсьле ўсе дванаццаць гадзінаў — адно каб мяне не чапалі.

Але, шчыра скажу, я дрэнна думаў пра цывілізаваны сьвет і пра Lufthans'у ў прыватнасьці. Гэтая фірма мела замоўлены для мяне гатэль — зь вячэрай і сьняданкам. Але як паехаць у гатэль бязь візы? Выходзіць, і гэта вырашальна. У аэрапорце мяне сустракае адзін safeguard (целаахоўнік) з амэрыканскай міграцыйнай службы, праводзіць праз усе пасты (у маім новым, ужо беларускім, пашпарце зьяўляецца першы штамп «уезд бязь візы»). Потым афармляюцца паперы на гатэль, і мяне пераймае другі safeguard. Д'ябал бяры, вельмі прыемна, бо раней ніколі целаахоўнікаў ня меў! Што праўда, абавязак гэтага хлопца (яго завуць Джэф) празаічны: пільнаваць мяне, каб не надумаў нелегальна застацца ў Штатах — як гэта спрабуе шмат хто рабіць. Так што амэрыканскаму ўраду прасьцей трымаць (пэўна, нятанную) службу гэтых хлопцаў, чым цярпець ад нелегальнай эміграцыі.

Джэфаў калега, дарэчы, доўга разглядае мой пашпарт, пытаецца, дзе гэта такая краіна Belarus. Я цярпліва тлумачу.

Пасьля мы едзем зь ім у гатэль «Travelodge» — аўтобусам хвілінаў 20 ад лётнішча. Джэф ветлівы і вельмі задаволены, што я гавару па-ангельску (уяўляю, каго яму даводзілася часам суправаджаць перад гэтым).

Я па-сяброўску саступаю яму аплочаную Lufthansa'й вячэру (у двух самалётах грунтоўна пад'еў разы тры) і кладуся спаць, бо ў Менску павінна ўжо быць чацьвёртая раніцы. Джэф яшчэ ідзе ў бар і калі вяртаецца, я ня чую...

З раніцы ўсё ідзе як трэба. Мы хутка даяжджаем да «Кэнэды», знаходзім аддзел цэнтральна-амэрыканскай авіякампаніі ТАСА, чым самалётам мне ляцець да Сан-Сальвадора. Мой целаахоўнік праводзіць мяне да самых дзьвярэй лятака і «здае» тамтэйшым праваднікам. Ляцім Boeing'ам-767 зь дзьвюма пасадкамі — у Вашынгтоне і Гватэмале. Дарэчы, прапусьціўшы міма вушэй аб'яву пілёта, у Гватэмале я ледзьве не сышоў з самалёта, бо думаў ужо, што гэта Сан-Сальвадор. Дзякуй Богу, спытаўся ў праваднікоў...

І вось нарэшце каля другой гадзіны мясцовага часу я ў сан-сальвадорскім аэрапорце. Страхі далоў: тут мяне сустракаюць адразу дзьве афіцыйныя асобы, за тры хвіліны афармляецца віза, і на шыкоўным лімузыне мяне вязуць у Прэзыдэнцкі гатэль у прадмесьці сталіцы. Ехаць кілямэтраў 35 — гэтаксама, як ад «Менску-2» да Менску. У Сальвадоры сьпёка (як на наша ўяўленьне) — каля 33 градусаў. У Менску, калі я ад'яжджаў, было мінус 20. Вясёлае жыцьцё! Добра, што парупіўся ўзяць летнія чаравікі ды шкарпэткі.

... Тое, што бачу абапал дарогі з аэрапорта, раней бачыў толькі ў кіно: экзатычныя дрэвы ды іншыя расьліны, незвычайныя сваёю формаю горы, а ўдалечыні й вулканы.

...Пасяляюць мяне, як я ўжо казаў, у Прэзыдэнцкі гатэль — безумоўна, вельмі прыстойны. Што праўда, няма лядоўні, куды пакласьці прывезенае з сабою сала. Як сапраўдны беларус, я нікуды далёка ня еджу без кавалка нашага сала. Тут, відаць, яно асабліва спатрэбіцца. Канфэрэнцыя, зь ейнымі заплянаванымі абедамі ды прыёмамі ўвечары, пачынаецца толькі пасьлязаўтра, а гарантавана аплочаныя маю толькі сьняданкі (пра астатняе было неяк няёмка й пытацца ў суправаджальнікаў: ніколі ня хочацца ўдаваць зь сябе беднага — такога, як ты ёсьць узапраўды). Але галоўнае, што з салам не прападзеш нідзе. Нават у Сан-Сальвадоры...

Жыцьцё ў гатэлі лацінаамэрыканскае. Ад сёмай увечары на пляцоўцы перад ім граюць музыкі, пяюць сьпевакі й сьпявачкі, танчаць госьці.

Другі дзень майго побыту ў Сальвадоры пачаўся з праходкі па прылеглых да гатэля вуліцах. Тут урэшце я пачаў ідэнтыфікаваць Беларусь у сьвеце. Сальвадорскія вуліцы досыць запушчаныя — сьмецьця трохі болей, як у нас. Хамства ў крамах няма — гэтак, як на Захадзе. Тое на тое — выходзіць, што мы трэці сьвет (Расея, па-за Масквою і Пецярбургам, цягне й на трэці з паловаю).

Гэтая зямля шмат цярпела і церпіць. Найперш ад землятрусаў: апошні з моцных, у 1987 г., разбурыў паўгорада. Таму, відаць, будынкаў вышэй за два паверхі тут вельмі мала — і гэта ў амаль двухмільённым месьце. Пра ўсё гэта грунтоўна я даведваюся крыху пазьней — робячы «тур» па Сан-Сальвадоры.

Як я трапіў у гэты «тур», трэба расказаць асобна. У аўторак, на другі дзень майго побыту, пачалі адзін за адным прыяжджаць іншыя ўдзельнікі канфэрэнцыі. Высьветлілася, што можна атрымліваць бясплатныя ваўчары на трохразовае харчаваньне тут, у гатэльнай рэстарацыі. Размаўляючы пры абедзе з адной з арганізатарак з боку гаспадароў, я абмовіўся, што няблага было б крыху паглядзець на сталіцу й навакольлі. Мне было сказана, што дзеля бясьпекі хадзіць пехатою нам тут не дазваляецца, але праз гадзіну будзе машына «з прадстаўніком пратаколу» — і тады можна будзе зрабіць «тур» на машыне.

*(Працяг у наступным нумары)*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Паштовыя афэры

## Дзякуючы афэрыстам зь Міністэрства сувязі нашая краіна можа трапіць у «чорны сьпіс»

**На філятэлістычных рынках у Маскве, Пецярбургу, Вільні, Рызе ды іншых гарадох сёньня па вялікім кошце прадаюцца канвэрты г.зв. «першага дня» (Premier jour), прысьвечаныя выхаду ў сьвет беларускіх марак.**

Праблема, аднак, у тым, што нашае Міністэрства сувязі не рабіла такіх кляйменьняў (гашэньняў). Напрыклад, маркі «Герб Полацка», «М.Гарэцкі», «Касьцёл у Магілёве», «Герб Менска» і некаторыя іншыя выпушчаныя ў паштовае абарачэньне без кляйменьня «першы дзень». А на рынках за мяжой яны прадаюцца.

«Ня можа быць!» — зьдзіўляюцца ў Міністэрстве сувязі. Між тым, на рынках замежжа зьяўляюцца ўсё новыя і новыя фальшывыя кляймены. Яны зробленыя тым самым штэмпелем, якім робяцца афіцыйныя кляймені. Штэмпель знаходзіцца ў сэйфе Міністэрства сувязі. Доступ да сэйфа мае абмежаванае кола чыноўнікаў, і таму пры жаданьні можна было б выявіць афэрыстаў. Аднак кіраўніцтва Міністэрства не сьпяшаецца правесьці дасьледаваньне.

«Гэтыя афэры хутка стануць вядомыя сусьветнай філятэлістычнай грамадзкасьці, і мы ўліпнем у «чорны сьпіс» на доўгія гады, прэстыж беларускай пошты будзе падарваны», — кажа адзін з аўтарытэтных беларускіх філятэлістаў.

**П.П.**




**Марка з фальшывым кляйменьнем**

# Хворыя на рак маліліся зь біскупам

Упершыню гарадзенскі каталіцкі біскуп Аляксандар Кашкевіч правёў набажэнства для цяжка хворых на рак у анкалягічным аддзяленьні абласной лякарні. Ксяндзы фарнага касьцёлу ўжо каля году выхаднымі днямі наведваюць лякарню, каб паспавядаць хворых, прычым яны не адмаўляюць у гэтым і праваслаўным вернікам.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Палкоўніка чакаюць на мітынгу

**Начальніка службы грамадзкай бясьпекі УУС Менскага гарвыканкаму палкоўніка Срыбнага па дарозе на працу «схапіў» інфаркт.**

Ён неадкладна быў шпіталізаваны і, за словамі дактароў, ня хутка вернецца да выкананьня службовых абавязкаў.

Палкоўніка Срыбнага добра ведаюць менскія палітычныя актывісты, бо ён не прапускаў ніводнага больш-менш значнага мітынгу. Праўда, палкоўнік ніколі не выступаў. Ягоным абавязкам было камандаваць сіламі міліцыі, якія сьцягваліся на мітынг дзеля забесьпячэньня парадку.

Відаць, нялёгкая гэта праца — ахоўваць спакой намэнклятуры. Тым ня менш знаёмыя па пляцы зычаць палкоўніку здароўя і хацелі б зноў бачыць яго на пляцы Незалежнасьці. Як-ніяк — свой чалавек.

**Адам РОЎДА**

# Моцны стымул

**У працаўнікоў менскага харчовага камбінату, дзе нядаўна быў выяўлены падпольны лікёра-гарэлачны цэх, цяпер штодзень — сьвята.**

З працы яны вяртаюцца ня толькі ў добрым настроі, але яшчэ і з парою пляшак у кішэні. Рэч у тым, што гэтыя людзі займаюцца цяпер пераліваньнем (з бутэлек у бочкі) сканфіскаванай міліцыяй настойкі «Лимонна». А каб працавалі хутчэй, адміністрацыя вырашыла даплочваць ім «натураю» — па дзьве пляшкі ў дзень. І хаця санэпідэмстанцыя прызнала гэтае пітво небясьпечным для ўжываньня (таму «Лимонну» выліваюць і перапрацоўваюць), рабочыя між тым п'юць сабе і ня скардзяцца на здароўе. Працуюць з энтузіязмам — пераліілі ўжо 24 тысячы пляшак. Яны спадзяюцца, што ім даручаць апаражняць таксама пляшкі з ілжэнастойкаю, што былі сканфіскаваныя ў камэрцыйных крамах. Рабочым камбінату ўпершыню пашчасьціла атрымаць гэткую выгадную дзяржаўную замову.

**М.В.**

# У Парэччы амаль сацыялізм

**Нядаўна на станцыі Парэчча Гарадзенскага раёну стыхійна ўтварыўся рынак, прычым незвычайна танны.**

Рэч у тым, што нашыя мытнікі нарэшце надумалі правесьці рэйд у прыгарадных цягніках на Друскенікі й на Вільню. Летувіскія мытнікі заўсёдыператрасаюць торбы пасажыраў, не дазваляюць вывозіць прадукты, а нашыя глядзелі на гэта скрозь пальцы. Аказалася, што ня толькі летувісы, але й самі гарадзенцы вывозяць у суседнюю краіну безьліч прадуктаў: па сто боханаў хлеба, дзясяткі пачкаў тварагу, курэй, яйкі і г.д. Мусілі яны ўсё прадаваць у Парэччы па ніжэйшых за магазінныя коштах. Слава мытнікам!

**Пятро КАВЕНЬКА**

# Дзе падзецца беларускаму консулу?

**Беластоцкія ўлады прапанавалі пад беларускае консульства адзін паверх у доме на вул. Варынскага.**

Наш пасол у Польшчы сп. Сянько запатрабаваў ад беластоцкага ваяводы сп. Пруціса і віцэ-прэзыдэнта горада сп. Саснкоўскага выкананьня папярэдняе дамовы. Раней было дамоўлена, што пад беларускае дыпляматычнае прадстаўніцтва будзе знойдзены асобны будынак у цэнтры Беластока. Пасьля перамоваў зь беларускім пасолом гарадзкія ўлады наагул абвясьцілі публічныя таргі на будынак, дзе трэці месяц жыве зь сям'ёй консул Хадасевіч. Беларускаму дыплямату пры гэтым не прапанавалі іншае кватэры.

**Міхал ВАЎКАВЫЦКІ**

Сьв. † Пам.

***АНЦЫЛЕЎСКІ Іван Францавіч***

Управа Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», Рада БНФ Партызанскага раёну г.Менска смуткуюць дзеля заўчаснай сьмерці сябры Фронту АНЦЫЛЕЎСКАГА Івана Францавіча, якая спасьцігла яго пры выратаваньні дзяцей на пажары, і выказваюць спачуваньне сям'і нябожчыка.

**Мінулай суботаю, 26 лютага, жаночы часопіс «Мила плюс» наладзіў у Беларускім цэнтры моды фэстываль маладых мадэльераў. Уваходны білет каштаваў 300 тыс. рублёў. Відаць, задорага, бо заля была напаўпустая. І навогул было даволі сумна. Пачастунак быў таксама слабаваты: бутэрброды, сухое віно і кардонныя пакункі з апельсінавым сокам Tampico.**

**Намесьнік старшыні Нацыянальнага банку Аляксандар Баркун (на здымку разам з жонкаю) быў прадстаўлены публіцы як «адзін з фундатараў фэстывалю». Багаты ў нас Нацыянальны банк!**



# Вялікая тройка мае прыбытак

Вялікая тройка з Чыкага — General Motors, Ford і Chrysler — урэшце знайшла спосаб эфэктыўнай канкурэнцыі зь японцамі, якія ў апошнія 20 гадоў мелі над ёй перавагу. Амэрыканскія вытворцы ўкаранілі ашчадныя машыны й тэхналёгіі, якія дазволілі ім атрымаць летась агульны прыбытак 7,4 млрд. даляраў (для параўнаньня: пазалетась іхныя страты склалі 2,4 млрд.), ня лічачы зьмены мэтадаў бугалтэрыі ды спэцыяльных пэнсійна-страхавых адлічэньняў. Гэтага выніку амэрыканцы дасягнулі пры адносна слабым рынку: летась яны прадалі 14,2 млн. аўтамабіляў. Спэцыялісты прагназуюць сёлета ўзрост продажу да 15 млн. штук і дэклярююць рэкордныя прыбыткі, што маюць перавысіць 13 млрд. USD. Свае прагнозы яны грунтуюць на сталым росьце попыту, які ў бліжэйшыя два гады дазволіць абыходзіцца бяз скідак.

# Скарб

У паўночным Ізраілі вадалазы паднялі з мора скарб, што складаўся з 4000 сярэбраных манэтаў эліністычнага пэрыяду. Цяперашні кошт скарбу ацэньваецца ў 800.000 даляраў. Знаходка важыць блізу 40 кг. З марскога дна быў узьняты блёк зьлепленых манэтаў (21 кг) і 1800 манэтаў паасобку. Усе манэты (так званыя тэтрадрахмы) паходзяць з пасяленьня Пафас на Кіпры, прыблізна з 145 году да нашай эры. Скарб быў на борце карабля, што плыў з Эгіпту і патануў падчас шторму на шырыні ізраільскага горада Хайфа.

**З паведамленьняў замежнай прэсы**

## Праграма перадачаў 8-га каналу зь 1 па 6 сакавіка

### Аўторак, 1 сакавіка

18.00 Для дзяцей: «Карусэль»; мультфільм «Энрыка Каруза» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30 «Солтэк» прадстаўляе: «Дарэміфасолькі».
18.35 Муз. праграма.
19.05 Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
19.25 Інтэрвію без пытаньняў.
19.35 «Хіл-стрыт Блюз».
20.25 Навіны.
20.35 Шматсэрыйны фільм «Лёс».
21.25 «Вам спадабаецца». Муз. праграма.
21.45 «Сабакі ў космасе». Маст. фільм.
23.15 Праграма відэакліпаў.

### Серада, 2 сакавіка

18.00 Для дзяцей: «Карусэль»; мультфільм «Ганс Хрысьціян Андэрсэн» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30 «Солтэк» прадстаўляе: «Дарэміфасолькі».
18.35 Муз. праграма.
18.55 Інтэрвію без пытаньняў.
19.05 «Спадарыня ўдача».
19.30 «Хіл-стрыт Блюз».
20.20 «Астракляса».
20.45 «Я куплю гэтую жанчыну».
21.35 «Джоан Рыверс Шоў», «Сіямскія блізьняты».
22.20 «Дык Трэйсі і пудзіла». Маст. фільм.

### Чацьвер, 3 сакавіка

18.00 Мультсэрыял «Ганчакі», «Апэрацыя», «Цягнік-прывід», мультфільм «Фрыдрых Вялікі» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.30 «Солтэк» прадстаўляе: «Дарэміфасолькі».
18.35 Дак. фільм «Вераломны бік».
19.20 Муз. праграма.
19.40 Шматсэрыйны фільм «Лябірынт правасудзьдзя»: «Справа гонару».
20.40 Інтэрвію без пытаньняў.
20.50 Шматсэрыйны фільм «Лёс».
21.35 «Солтэк» прадстаўляе: «Вуліца».
21.40 Стрэс-паўза.
21.45 «Абуджэньне сьфінкса». Маст. фільм.
23.15 Праграма відэакліпаў.

### Пятніца, 4 сакавіка

18.00 Для дзяцей: «Карусэль»; мультфільм «Гісторыя сувязі» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
18.35 «Солтэк» прадстаўляе: «Дарэміфасолькі».
18.40 Муз. праграма.
19.10 Інтэрвію без пытаньняў.
19.25 «Хіл-стрыт Блюз».
20.15 Мультфільмы Уолта Дыснэя.
20.35 «Я куплю гэтую жанчыну».
21.20 «Час мясцовы».
21.40 «Норт-біч» і «Сырамятны бізун». Маст. фільмы.
23.15 Праграма відэакліпаў.

### Субота, 5 сакавіка.

15.00 Мультсэрыял «Сям'я Барклі», мультфільм «Электрычнасьць» з сэрыі «Аміга і ягоныя сябры».
15.35 «Солтэк» прадстаўляе: «Дарэміфасолькі».
15.40 Муз. праграма.
16.10 «Прапаведнік Кенэт Коплэнд».
16.40 «Я куплю гэтую жанчыну».
17.45 «Як маесься, дзядзька?» Група «А—Студыя».
18.10 «Залатое цяля». Маст. фільм (1 ч.).
19.35 Мультфільмы Ўолта Дыснэя.
19.50 «Шалом зь Ерусаліма».
20.55 Шматсэрыйны фільм «Лёс».
21.35 «Сем хвілінаў з «Хрыстафорам».
21.45 «Залатое цяля». Маст. фільм (2 ч.).
23.15 Праграма відэакліпаў.

### Нядзеля, 6 сакавіка

15.00 Мультфільмы Ўолта Дыснэя.
15.25 Стрэс-паўза.
15.30 «Джоан Рыверс» прадстаўляе: Ф.Донах'ю і Ў.Познэр.
16.30 «Я куплю гэтую жанчыну».
17.35 Сустрэча з лаўрэатамі.
17.50 Прыгодніцкі сэрыял «Затока Небясьпечная».
18.20 «Солтэк» прадстаўляе.
18.55 Мультфільм.
19.15 «Апошні дзень у Парыжы». Маст. фільм.
21.15 На вашыя просьбы. «Бацька беларускага блюзу В.Шалкевіч». Паўтор.
21.45 «Альба-Рэгія». Маст. фільм.
23.20 Праграма відэакліпаў.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 28.02.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 272 Наклад 22 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12